# Голас Радзімы

№ 39 (2129)
28 верасня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




## ПАДКОВА НА ШЧАСЦЕ

Патрымаўшы на моцнай, шырокай далоні падкову, ён працягнуў яе журналісту: «Вазьміце на шчасце». Рослы, дужы на свае гады Іван Станіслававіч па-добраму, шчыра і сардэчна ўсміхаўся. Колькі такіх падкоў выкаваў ён за свае 78 гадоў, не злічыць. Майстра добра ведаюць не толькі ў пасёлку Поразава, дзе ён жыве, але і далёка за межамі Свіслацкага раёна.

Іван Дмухоўскі вырас у сям'і патомнага каваля. Гэта рамяство заўсёды было ў пашане ў сельскіх жыхароў. Селяніну патрэбны не толькі падковы для коней. У ходу плугі, бароны, усемагчымыя прылады. У горад за кожнай драбязой не паедзеш. Ды і ў гаспадарчым магазіне не ўсё купіш. Заўсёды ганарылася вёска, якая мела свайго каваля.

У двары ў Івана Станіслававіча стаіць невялікая кузня. Ён пабудаваў яе сам некалькі гадоў назад, калі пайшоў на пенсію. Да яго ідуць за парадай, дапамогай, хаця ў кузні калгаса працуюць новыя майстры. Дзядзька Іван паказвае свае вырабы. Вось па-майстэрску выкаваная «кошка», якой дастаюць з калодзежа вядро, што патанула. Нібы літыя, пабліскваюць дзвярныя ручкі і завесы. Граблі, дэталі для павозкі не адрозніш ад заводскіх. Усе інструменты для работы ў кузні Іван Станіслававіч вырабіў сваімі рукамі.

— Што я падмеціў, — дзеліцца назіраннямі майстар, — у спакойнага па характару гаспадара і конь паслухмяны, а ў нецярплівага, які не ўмее валодаць сабой, на месцы не стаіць. Я любога каня падкаваць магу, супакою яго. Жывёліну разумець трэба, любіць. Вунь які ў школе-інтэрнаце конь бойкі, а мяне слухаецца...

У Івана Станіслававіча ёсць яшчэ адзін дар: ён добры расказчык. Я міжволі ўявіла, як малады хлопец стаў каля кавадла, замяніўшы рана памёршага бацьку. Цяжкім і непаслухмяным быў молат, але Іван асвоіў прамудрасці рамяства. Трэба было падымаць на ногі сям'ю.

Расказаў Дмухоўскі аб поразаўскіх майстрах ганчарнай справы. Відаць, цікавіцца рамяством... Пазайдросціў ён таму, у каго ёсць прадаўжальнікі традыцый. Яго сыны не сталі кавалямі, але Іван Станіслававіч не крыўдуе: у іх сваё прызванне, пайшлі сваёй дарогай.

...Далёка на вуліцы чуецца звон кавадла.

НА ЗДЫМКУ: каваль Іван ДМУХОЎСКІ з унучкамі Веранікай і Гражынай.

В. ЯЎСЕЕВА.

Фота С. КРЫЦКАГА.

# АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ ПАРТЫІ Ў СУЧАСНЫХ УМОВАХ

## *Даклад Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА*

**У Маскве адбыўся чарговы Пленум Цэнтральнага Камітэта КПСС. На яго разгляд было вынесена некалькі пытанняў: аб скліканні чарговага XXVIII з'езда КПСС; аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах.**

**Усебакова ўзважыўшы цяперашнюю сітуацыю, характар праблем, якія паўсталі перад краінай і патрабуюць асэнсавання, Палітбюро прыйшло да вываду аб мэтазгоднасці наблізіць скліканне чарговага з'езда партыі і правесці яго ў другой палове кастрычніка 1990 года.**

**Мінулы перыяд быў насычаны пастаянным пошукам па ўсіх напрамках нашай палітыкі — эканамічнай, сацыяльнай, культурнай, нацыянальнай. Але рэальнае жыццё, перабудовачныя працэсы ідуць у такім тэмпе, што мы часта не паспяваем за імі.**

**Набліжэнне тэрмінаў склікання з'езда не ў меншай меры дыктуецца неабходнасцю ажыццявіць глыбокае абнаўленне самой партыі з улікам яе новай ролі як палітычнага авангарда грамадства на этапе перабудовы.**

**Партыя з'яўляецца носьбітам праграмных мэт перабудовы, аб'ядноўваючай і кансалідуючай сілай. Выступіўшы з ідэямі глыбокай дэмакратызацыі грамадства, яна проста абавязана перабудаваць уласную дзейнасць на дэмакратычных прынцыпах, умацаваць сваё ідэйнае адзінства на платформе перабудовы. Толькі такая абноўленая і глыбока дэмакратычная па сутнасці сваёй партыя здольна будзе і далей весці за сабой масы.**

**Галоўным у рабоце Пленума ЦК КПСС стала абмеркаванне нацыянальнай палітыкі партыі на сённяшнім этапе. З вялікім дакладам на гэтую тэму выступіў М. С. Гарбачоў. Пленум таксама прыняў пастанову «Аб нацыянальнай палітыцы партыі ў сучасных умовах».**

**Пленум лічыць, што ідэі і палажэнні платформы, якія сустрэлі шырокае адабрэнне ў грамадстве, адпавядаюць надзённым патрэбнасцям перабудовы і могуць стаць палітычнай асновай для абнаўлення савецкай федэрацыі, развіцця ўсіх нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў і вырашэння іншых нацыянальных праблем у інтарэсах усіх народаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

**У гэтым нумары газеты мы друкуем тэкст даклад С. Гарбачова, з якім ён выступіў на Пленуме.**

Таварышы!

*Логіка перабудовы*, само жыццё падвялі нас да вываду, што і ў нацыянальных адносінах наспела патрэбнасць ва ўсёахопных глыбокіх пераўтварэннях.

Скажам шчыра: пасля красавіка 1985 года мы не адразу прыйшлі да ўсведамлення неабходнасці такіх пераўтварэнняў. Тут, відаць, дало аб сабе знаць распаўсюджанае перакананне, што на гэтым напрамку грамадскага развіцця справы ў нас ідуць больш або менш добра. Вядома, мы ведалі аб існаванні няпростых нацыянальных праблем. Аб іх гаварылася на XXVII з'ездзе КПСС. Але ўсё ж увесь маштаб наспеўшых тут змяненняў праявіўся пазней, і таму на XIX партыйнай канферэнцыі гэтыя пытанні аказаліся ў цэнтры ўвагі.

Сённяшнюю сітуацыю ў міжнацыянальных адносінах нельга ацаніць інакш, як вельмі складаную. Адно за адным усплылі на паверхню нявырашаныя тут пытанні, далі аб сабе знаць дапушчаныя за многія дзесяцігоддзі памылкі і дэфармацыі, успыхнулі міжнацыянальныя канфлікты, якія тлелі гадамі. У тугі вузел спляліся праблемы сацыяльна - эканамічныя і дзяржаўна - прававыя, экалагічныя і дэмаграфічныя, праблемы развіцця мовы і культуры, захавання нацыянальных традыцый. Кожная з іх патрабуе да сябе велізарнай увагі, за кожнай стаяць жывыя людзі, лёс цэлых нацый.

Перад намі стаіць задача — усебакова, з прынцыповых пазіцый абмеркаваць стан нацыянальных адносін у краіне і выпрацаваць сучасную стратэгію партыі па нацыянальнаму пытанню, апіраючыся на ленінскія прынцыпы, існуючыя рэальнасці, пануючыя тэндэнцыі сусветнага грамадскага развіцця. Дыскусіі па гэтаму пытанню ў партыі і грамадстве ідуць даўно. Праведзена вялікая аналітычная работа. Вынікам усяго гэтага стаў праект платформы КПСС, апублікаваны для ўсенароднага абмеркавання і вынесены сёння на разгляд Пленума ЦК. Тэкст яе і паступіўшыя заўвагі вам добра вядомы. Таму я спынюся на некаторых ключавых пытаннях.

## I.

Нацыянальнае пытанне і перш за ўсё пытанне аб **суадносінах інтэрнацыянальнага і нацыянальнага** нашай партыі прыйшлося вырашаць і на этапе падрыхтоўкі рэвалюцыі, і асабліва ва ўмовах будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

У поўнай адпаведнасці з марксісцкім вучэннем яна з самага пачатку займала інтэрнацыяналісцкую пазіцыю. У разуменні Леніна інтэрнацыяналізм уключаў абавязковы ўлік нацыянальных інтарэсаў, павагу самабытнасці кожнай нацыі, прызнанне раўнапраўя ўсіх народаў, непрымірымыя адносіны да любых форм нацыянальнага прыгнёту. Гэтыя мэты могуць і павінны быць дасягнуты сумеснымі намаганнямі працоўных усіх нацый. Такая ленінская дыялектыка інтэрнацыянальнага і нацыянальнага.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі перад партыяй паўстала ў практычнай плоскасці задача выпрацаваць канкрэтныя шляхі і формы рэалізацыі нацыянальнай палітыкі. Савецкай уладзе ад царызму дасталася цяжкая спадчына: краіна раздзіралася міжнацыянальнымі супярэчнасцямі, народы, якія пражывалі ў ёй, не толькі знаходзіліся ў бяспраўным становішчы, але і на розных ступенях эканамічнага і духоўнага развіцця. У гэтых умовах праблема дзяржаўнай будовы набывала жыццёва важнае значэнне. Многія тады выступалі за аўтанамізацыю або нават унітарную дзяржаву. Тым больш вялікая заслуга Леніна, які здолеў правільна ўлавіць настроі мас і надзённыя патрэбнасці развіцця грамадства, вывесці адсюль аптымальную стратэгію партыі ў нацыянальным пытанні.

Так узнікла ідэя дзяржаўнай федэрацыі новага гістарычнага тыпу, якая стала адной з важнейшых крыніц дынамічнага развіцця ўсёй краіны і кожнага народа, які жыве ў ёй. Імпульс, які быў дадзены стварэннем Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, вызначыў магістральную лінію развіцця нашага многанацыянальнага грамадства, хоць у далейшым Сталін і яго акружэнне, не замахваючыся прама на федэратыўную форму дзяржаўнасці, пастараліся ўсё ж рэалізаваць сваю ідэю аўтанамізацыі на справе.

У апошні час у нас многа і востра крытыкуюцца дэфармацыі ў сферы нацыянальных адносін, згубныя вынікі звышцэнтралізму, бюракратычнага кіравання, несправядлівасці, дапушчаных у адносінах да рада народаў. Такая крытыка апраўданая, больш таго — яна неабходная. У гісторыі Савецкай дзяржавы не павінна застацца ніводнай «белай плямы». Грамадства павінна мець поўную і вычарпальную інфармацыю аб усіх яе эпізодах, якімі б горкімі яны ні былі. Але, працягваючы і нават паглыбляючы аналіз, крытыку скажэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, мы не павінны дапусціць, каб месца адной няпраўды або паўпраўды заняла іншая.

Нам трэба са строга аб'ектыўных пазіцый падысці да гісторыі стварэння і развіцця Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік—гэтай унікальнай з'явы ў гісторыі чалавецтва. Бясплённыя і непрымальныя спробы ідэалізаваць мінулае, паказваць яго выключна ў ружовым колеры. Гэта, як мы з вамі ўжо бачылі, не служыць інтарэсам працоўных, справе сацыялізму. Але дакладна гэтак жа было б памылкай стаць на шлях нігілістычных адносін да мінулага. І не толькі таму, што ў ім заключаны вопыт барацьбы многіх пакаленняў за будаўніцтва новага грамадства, фарміравання новых адносін паміж народамі, але таксама таму, што ў гэтым выпадку мы маем права канстатаваць велізарныя гістарычныя дасягненні.

Нягледзячы на дапушчаныя дэфармацыі і памылкі, трэба бачыць у развіцці Савецкай дзяржавы галоўнае. Мы не маем права забываць, што размова ідзе аб ацэнцы жыцця і лёсу, думак і спраў усіх тых, хто будаваў гэту дзяржаву, пранёс на сваіх плячах цяжар пераадолення эканамічнай адсталасці краіны, у адзіным страі абараняў Радзіму ў Вялікай Айчыннай вайне, узнімаў яе з руін у пасляваенныя гады.

Усе мы з дзяцінства раслі ў грамадскай атмасферы, літаральна прасякнутай інтэрнацыяналізмам. Дружба народаў была для нас не нейкім абстрактным лозунгам, а рэальнасцю будняў. Хіба мы можам забыць аб гэтым, адмовіцца ад інтэрнацыяналісцкай спадчыны нашай рэвалюцыі? Нельга дапусціць, каб цяжкасці і праблемы, што нахлынулі сёння, засланілі фундаментальныя каштоўнасці, якія сфарміраваліся за гады Савецкай улады і на якіх грунтуецца наша многанацыянальная краіна. Скажу так: усякія спробы сказіць і прыменшыць рэальныя дасягненні ў сферы нацыянальных адносін — гэта кашчунства перад памяццю некалькіх пакаленняў савецкіх людзей, яны не вытрымліваюць крытыкі пры супастаўленні з фактамі нашага жыцця.

Калі хтосьці сёння сцвярджае, быццам у пытаннях нацыянальнага развіцця і міжнацыянальных адносін Савецкая ўлада не прынесла колькі-небудзь істотных перамен у параўнанні з тым, што было ў дарэвалюцыйнай Расіі, то гэта не што іншае, як нядобрасумленнае скажэнне рэчаіснасці, якое выкарыстоўваецца для нагнятання нацыяналістычных страсцей і абгрунтавання ўсялякіх экстрэмісцкіх патрабаванняў.

Сёй-той у чадзе нацыяналізму дагаворваецца да таго, што аб'яўляе інтэрнацыяналізм, дружбу народаў прапагандысцкімі лозунгамі, міфамі, якія нічога не значаць, не адлюстроўваюць рэальнае становішча рэчаў. Але тут нават няма прадмета для спрэчак. У жыцці нашага грамадства пастаянна праяўляюцца брацкая дапамога, супрацоўніцтва, дачыненне да спраў і клопатаў адзін аднаго. Хоць, як я ўжо сказаў, сёння ў міжнацыянальных адносінах мы сутыкаемся з сур'ёзнымі канфліктамі і праблемамі.

Пытанне аб тым, што прынеслі нашым народам нацыянальная палітыка КПСС, развіццё савецкай федэрацыі, мае прынцыповае значэнне. Давайце паглядзім на справу ў трох асноўных вымярэннях — палітычным, эканамічным і духоўным.

**У палітычным плане** адным з важнейшых вынікаў Кастрычніка і наступных сацыялістычных пераўтварэнняў з'явілася набыццё народамі Расіі розных форм нацыянальнай дзяржаўнасці.

Варта, таварышы, успомніць, што ў царскай Расіі не было Украіны, Беларусі, Грузіі, а былі губерні Расійскай імперыі. Іх народы не разглядаліся як цэласныя нацыі, у іх бачылі толькі падданых «яго імператарскай вялікасці». Тое ж адносіцца да іншых народаў Закаўказзя, народаў Прыбалтыкі, Малдавіі. У Сярэдняй Азіі становішча было і таго горшае — у аснове адміністрацыйнай будовы ляжалі рэшткі феадальна-тэакратычных дэспатый.

Пасля рэвалюцыі ішлі ў цесным перапляценні складаныя працэсы кансалідацыі нацый, фарміравання іх сацыялістычнай дзяржаўнасці і адначасова развіцця ўзаемадзеяння, аб'яднання ў федэрацыю. Рашаючымі вехамі ў гэтых адносінах сталі 1922 год, калі быў заключаны дагавор аб стварэнні СССР, 1924-ты—год прыняцця першай саюзнай Канстытуцыі. У 1940 годзе ў саставе СССР была ўтворана Малдаўская ССР. У тым жа годзе ў Саюз увайшлі Літва, Латвія, Эстонія. Адбывалася гэта ў складаны гістарычны перыяд, калі ўжо разгараўся пажар другой сусветнай вайны, фашызм захопліваў адну краіну за другой. Рэальная пагроза заняволення навісла і над народамі Прыбалтыкі.

Цяпер вакол падзей, якія адбываліся на тым адрэзку гісторыі, ідуць вялікія дыскусіі. Многае тут яшчэ трэба будзе прааналізаваць і ацаніць. Але няма падстаў ставіць пад сумненне прынятае тады рашэнне аб уваходжанні прыбалтыйскіх рэспублік у састаў СССР, зроблены іх народамі выбар.

Ясна і тое, што савецкае кіраўніцтва, прымаючы розныя меры для ўмацавання бяспекі краіны перад наяўнасцю фашысцкай пагрозы, допусціла вельмі грубыя парушэнні ленінскіх прынцыпаў знешняй палітыкі, якая адхіляе падзел сфер уплыву. Мы гэта рашуча асуджаем.

Наогул, таварышы, мы за поўнае аднаўленне гістарычнай праўды. Нельга перапісваць гісторыю, каб дагадзіць суб'ектыўным уяўленням і палітычным разлікам, падпарадкоўваючыся страсцям і амбіцыям сённяшняга дня. Ход падзей не павярнуць назад. Ісці наперад можна, толькі апіраючыся на гістарычную праўду і рэальнасці сучаснага свету.

У выніку гістарычнага развіцця, пры ўсёй яго супярэчлівасці, склалася адзіная саюзная сацыялістычная дзяржава, на тэрыторыі якой пражывае больш за сто народаў. Яна валодае складанай структурай, прадстаўлена саюзнымі і аўтаномнымі рэспублікамі, аўтаномнымі абласцямі і акругамі. Адпаведна сфарміраваліся органы прадстаўнічай улады і кіравання, іншыя палітычныя і грамадскія інстытуты, праз якія народам адкрыліся шляхі для ўключэння ў працэс гістарычнай творчасці.

Але функцыяніраванню гэтай сістэмы і тым самым — рэалізацыі разнастайных інтарэсаў народаў, якія пражываюць у нашай краіне, велізарны ўрон нанеслі унітарызм, каманднa-адміністрацыйныя метады кіраўніцтва, якія абмяжоўвалі правы рэспублік і іншых нацыянальных утварэнняў, вялі да выпустошвання рэальнага зместу федэрацыі, стрымлівалі прагрэс усяго нашага грамадства.

Нельга не сказаць тут і аб дапушчаных у мінулым, асабліва ў гады вайны і першы пасляваенны час, актах несправядлівасці і беззаконнасці ў адносінах да некаторых народаў. Хоць наконт гэтага ўжо ёсць адпаведныя палітычныя рашэнні і дадзены прынцыповыя ацэнкі, сёння, калі мы абмяркоўваем пытанні нацыянальнай палітыкі, трэба яшчэ раз заявіць: заслугоўваюць рашучага асуджэння факты самавольства і высялення народаў з месцаў іх пражывання ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Мы павінны зрабіць усё для аднаўлення груба парушаных правоў савецкіх немцаў, крымскіх татар, турак-месхецінцаў, калмыкаў, балкарцаў, карачаеўцаў, чэчэнцаў, інгушаў, грэкаў, карэйцаў, курдаў. Пытанне няпростае, у некаторых адносінах балючае. Але, як гэта ні цяжка, ёсць толькі адзін шлях—настойліва шукаць рашэнні, прымальныя для ўсіх, якія б улічвалі існуючыя цяпер рэальнасці.

Цяпер аб **эканамічным баку справы.**

У выніку мэтанакіраванай палітыкі паскоранага развіцця былых нацыянальных ускраін, ва ўсіх саюзных рэспубліках за гады Савецкай улады створана свая шматгаліновая індустрыя, зблізіліся ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця. Калі ў 1926 годзе максімальны разрыў па вытворчасці прамысловай прадукцыі на душу насельніцтва паміж старымі прамысловымі раёнамі і нацыянальнымі ўскраінамі дасягаў 38 разоў, то ў 1941 годзе ён скараціўся да 4,1 раза, а цяпер складае прыкладна 2,3 раза. Калі яшчэ ў канцы 50-х гадоў рабочыя па колькасці пераважалі толькі ў РСФСР, Эстоніі і Латвіі, то ў канцы 70-х гадоў так абстаяла справа практычна ва ўсіх рэспубліках. Калі яшчэ перад вайной многія народы не мелі падрыхтаваных кадраў, то цяпер становішча змянілася карэнным чынам, усе яны маюць такія кадры, уключаючы спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

У першыя дзесяцігоддзі Савецкай улады ні аб якой эквівалентнасці эканамічнага абмену паміж рэспублікамі не магло быць і размовы. Асноўны

цяжар палітыкі «выраўноўвання» лёг тады на плечы больш развітых у эканамічных адносінах рэгіёнаў, у першую чаргу РСФСР і Украіны. Але патокі матэрыяльнай і тэхнічнай дапамогі не заўсёды ішлі толькі з еўрапейскай часткі Саюза ў азіяцкую. Дастаткова ўспомніць гады пасляваеннага аднаўлення. Уся федэрацыя ўкладвала сродкі, каб ліквідаваць разруху ў спустошаных нашэсцем абласцях Расіі, Украіны, Беларусі, Малдавіі, дапамагчы падняцца на ногі прамысловасці і сельскай гаспадарцы прыбалтыйскіх рэспублік.

Коратка кажучы, сумеснымі намаганнямі ўсіх нашых народаў за гады Савецкай улады створана велізарнае багацце. Кожны народ мае права бачыць у ім часцінку сваёй працы, разглядаць яе як і свой набытак, агульны капітал. У выніку шматгадовага развіцця эканомікі СССР на планавай аснове дасягнута высокая ступень яе інтэграванасці, склаўся цэласны народнагаспадарчы комплекс. Прычым размова ідзе не проста аб суме вытворчых магутнасцей, а менавіта аб адзіным эканамічным арганізме, асобныя часткі якога не могуць існаваць па-за ўзнікшымі і растучымі сувязямі з народнай гаспадаркай у цэлым.

Адзначаючы гэтыя дасягненні, я далёкі ад думкі сцвярджаць, што дасягнута мяжа ў забеспячэнні гарманічнай узаемасувязі ўсіх элементаў нашай народнай гаспадаркі. На жаль, мы ў многім тут адстаём, і далейшае паглыбленне кааперацыі працы — важнейшы рэзерв нашага развіцця. Але нават пры гэтым дасягнутая шчыльнасць узаемасувязей у народнай гаспадарцы літаральна паўстае супраць любых спроб іх парушыць. Мы ўсе павінны ў поўнай меры гэта ўсвядоміць, каб не памыліцца ў рашэннях, якія прымаем і будзем прымаць у ходзе перабудовы.

Дазволю сабе прывесці некаторыя лічбы, якія характарызуюць міжрэспубліканскія сувязі на аснове міжгаліновага балансу. Доля ўвозімай прамысловай прадукцыі ў яе агульным рэспубліканскім спажыванні складала ў 1987 годзе: у РСФСР —18 працэнтаў, ва Украінскай ССР —26, Беларускай —39, Казахстане —33, у рэспубліках Закаўказзя — ад 33 да 40, Прыбалтыкі — ад 39 да 42, у Сярэдняй Азіі — ад 37 да 47 і ў Малдаўскай ССР —44 працэнты.

Магутны нафтагазавы комплекс Расіі забяспечвае большую частку патрэбнасцей усіх рэспублік у энергетычных рэсурсах. РСФСР, Украіна і Казахстан забяспечваюць усю краіну металам, даюць 90 працэнтаў збожжа. Сярэдняя Азія разам з многімі іншымі таварамі пастаўляе такі унікальны прадукт, як бавоўна. Беларусь, Літва, Латвія, Эстонія выпрацоўваюць прадукцыю дакладнага машынабудавання і лёгкай прамысловасці, з'яўляюцца буйнымі пастаўшчыкамі мяса, малака і бульбы. Сваё аблічча ў эканоміцы маюць закаўказскія рэспублікі і Малдавія. Аналіз паказвае, што практычна ні адна рэспубліка не змагла б самастойна стварыць такі патэнцыял, які яна сёння мае. І гэтак жа ні адна не змагла б забяспечыць нармальнае яго функцыяніраванне і эфектыўнае выкарыстанне. Такі вынік аб'яднання намаганняў народаў.

Рэальнасці такія. У Латвійскай ССР, напрыклад, за кошт увозу задавальняецца 96 працэнтаў патрэбнасцей у паліве, 50— у электраэнергіі, 90— у чорных металах, 100— у каляровых металах, 80—у сыравінных хімічных матэрыялах, 63 працэнты — у прадукцыі машынабудавання. Штогод для патрэб жывёлагадоўлі завозіцца каля паўтара мільёна тон збожжа — больш палавіны выкарыстоўваемых тут канцэнтраваных кармоў.

Аналагічная карціна ў іншых рэспубліках. Арменія, скажам, за кошт увозу задавальняе 100 працэнтаў патрэбнасці ў паліве, 93— чорнай металургіі, 56— прадукцыі хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, 32—машынабудавання і металаапрацоўкі, 37— мясных і больш чым 64 працэнты малочных прадуктаў. Ва Узбекскай ССР за кошт увозу задавальняецца 50 працэнтаў патрэбнасці ў прадукцыі нафтагазавай прамысловасці, 56— вугальнай, 80— чорнай металургіі, 48— каляровай металургіі.

Адной з важнейшых прадпасылак нармальнага функцыяніравання любой эканомікі з'яўляецца наяўнасць развітога рынку. Вядома, якая жорсткая барацьба ідзе ў свеце за рынкі збыту. І, бясспрэчна, вялікай перавагай усіх нашых рэспублік і рэгіёнаў з'яўляецца наяўнасць практычна неабмежаванага агульнасаюзнага рынку. Вось прыклад. Літва пастаўляе іншым рэспублікам вылічальную, тэлевізійную і гуказапісваючую тэхніку, прадукцыю станкабудавання, электратэхнічнай, лёгкай і харчовай прамысловасці, атрымліваючы ўзамен тэхналагічнае абсталяванне, аўтамабілі, трактары, камбайны, нафтапрадукты Расіі, метал і вугаль Украіны, калійныя ўгнаенні Беларусі, бавоўну Сярэдняй Азіі, каляровыя металы і воўну Казахстана, фрукты Малдавіі і Закаўказзя.

Асэнсаванне і вывады з аналізу існуючых эканамічных рэальнасцей маюць прынцыповае значэнне для выпрацоўкі сучаснай нацыянальнай палітыкі. І пры гэтым, вядома, нельга пакідаць без увагі тыя негатыўныя працэсы, якія з'явіліся вынікам нерацыянальнага размяшчэння прадукцыйных сіл, прывялі да ўзнікнення вострых экалагічных і дэмаграфічных сітуацый. У нас цяпер у адных месцах не хапае працоўных рэсурсаў, не выкарыстоўваюцца ў поўнай меры ствараныя магутнасці, на чым грамадства нясе вялікія эканамічныя страты. У іншых рэгіёнах, перш за ўсё, у рэспубліках Сярэдняй Азіі і ў нейкай меры Закаўказзя, у Малдавіі, наадварот, утварыліся лішнія працоўныя рэсурсы. Гэта становіцца адной з крыніц сацыяльнай напружанасці, узнікнення канфліктных сітуацый, у тым ліку — у сферы міжнацыянальных адносін. Сведчанняў таму ў апошні час больш чым дастаткова.

У прычынах узнікшай сітуацыі трэба разбірацца грунтоўна, усе гэтыя пытанні павінны быць глыбока прадуманы ў рамках далейшай работы над канцэпцыяй перабудовы нашай эканомікі. Ёсць адносна гэтага прапановы ад Узбекістана, рыхтуюцца яны і ў іншых рэспубліках. Трэба прадоўжыць гэту работу, з тым каб першыя сур'ёзныя крокі да выпраўлення сітуацыі былі зроблены ўжо ў трынаццатай пяцігодцы.

Але вось аб чым хацеў бы сказаць у гэтай сувязі, таварышы. Мы цяпер гаворым, і правільна гаворым, аб згубных выніках звышцэнтралізацыі, дыктату і самавольства ведамстваў у развіцці тых або іншых галін эканомікі. Але ж я мог бы вам сёння паказаць том, у якім падсумаваны просьбы саюзных рэспублік за апошнія дзесяць гадоў пабудаваць новыя прадпрыемствы, стварыць цэлыя галіны прамысловасці. Многае з таго, што сёння ставіцца ў віну цэнтру, паявілася на свет у выніку настойлівых неаднаразовых просьбаў рэспубліканскіх і мясцовых органаў. Вазьміце стэнаграмы сесій Вярхоўнага Савета СССР, і вы ўбачыце, што яны прасякнуты бясконцымі просьбамі такога роду. А колькі запісак да гэтага часу паступала ў ЦК КПСС! Прычым, стараючыся атрымаць той або іншы прэстыжны аб'ект, мясцовыя ўлады часта згаджаліся на самыя жорсткія ўмовы цэнтральных ведамстваў, сродкі на сацыяльнае развіццё выдзяляліся мінімальныя, патрэбы людзей фактычна ігнараваліся. Гэтыя праблемы носяць агульны характар, але ва ўмовах нашай краіны яны набылі нацыянальную афарбоўку.

Калі гаварыць у цэлым — у эканоміцы ў нас ёсць на што абаперціся, але і работы — непачаты край.

Ацэньваючы становішча ў **духоўнай сферы** жыцця нашай многанацыянальнай краіны, трэба перш за ўсё па заслугах ацаніць велізарную, гістарычнага аб'ёму і значэння работу, якая дазволіла выратаваць ад поўнага знікнення або адрадзіць, даць другое дыханне многім унікальным нацыянальным традыцыям, забяспечыць магутны ўздым культуры ўсіх народаў.

Мы часта ўжываем прывычны абарот, што пры Савецкай уладзе некаторыя народы ўпершыню атрымалі пісьменнасць. А што ж гэта значыць? Адыміце ў чалавека магчымасць гаварыць і пісаць на роднай мове, ведаць гістарычны шлях, эпас свайго народа, і ён, якіх бы поспехаў ні дасягнуў у матэрыяльных адносінах, ужо бязродны, а значыць, і бездухоўны.

Ленінская палітыка культурнай рэвалюцыі ў нашай краіне, нягледзячы на ўсе дэфармацыі, якія мелі месца, дала ўражальныя вынікі. Цяпер у кожнага нашага народа склалася свая навуковая і мастацкая інтэлігенцыя — носьбіт нацыянальнай культуры, ад якой залежыць і яго далучэнне да каштоўнасцей іншых савецкіх нацый, да сусветнай скарбніцы ведаў і мастацкай класікі. У кожнай з рэспублік ёсць навуковыя цэнтры, універсітэты і інстытуты, шырокая сетка народнай адукацыі, свае тэатры, развіваюцца нацыянальная кінематаграфія, жывапіс і архітэктура. Але ж вядома, што многія напрамкі навуковай і мастацкай творчасці не могуць развівацца без усебаковай дзяржаўнай падтрымкі, клопату і ўвагі грамадства. Усё гэта ўзяла на сябе Савецкая ўлада, і ў гэтым яе найвялікшая гуманістычная місія.

Гаворачы аб выніках нашага духоўнага развіцця, немагчыма пакінуць без увагі і растучую ўзаемасувязь нацыянальных культур. Вынікам сумеснага жыцця і руху нашых народаў па сацыялістычным шляху стала фарміраванне савецкай культуры, багатай сваёй разнастайнасцю, шматколернасцю нацыянальных асаблівасцей і традыцый. Гэта таксама дастойны плён супрацоўніцтва брацкіх народаў, і мы ім ганарымся.

Але тым больш нецярпіма, што побач з яркімі праяўленнямі сацыялістычнага ўкладу жыцця і ў гэтай сферы накапіліся вельмі вострыя праблемы. Неабгрунтавана былі ліквідаваны тысячы нацыянальных раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, створаных у 20-я гады, якія паспяхова выконвалі свае функцыі. Узніклі праблемы задавальнення нацыянальных патрэбнасцей у людзей розных нацыянальнасцей, якія, у сілу натуральных працэсаў, аказаліся расселенымі па ўсіх рэгіёнах краіны.

Асабліва востры характар набылі праблемы развіцця моў і ўсяго, што з імі звязана, — навучання, выдавецкай дзейнасці, магчымасцей выкарыстання ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця. Пад уплывам эканамічных, сацыяльных і дэмаграфічных фактараў адбывалася пэўнае скарачэнне сферы дзеяння нацыянальных моў, што трактавалася на карысць распаўсюджаных у мінулым тэарэтычных пастулатаў аб фарсіраваным зліцці нацый, якія былі падняты на ўзровень праграмных установак. І хоць гэтыя працэсы выклікалі законную трывогу і занепакоенасць у грамадстве, цвярозыя спробы больш глыбока ў іх разабрацца і знайсці рацыянальнае рашэнне нярэдка кваліфікаваліся як нацыяналізм з усімі выходзячымі адсюль вынікамі. Рэзультатам такой практыкі стала зніжэнне ролі нацыянальных моў некаторых народаў. І зразумелае іх імкненне да захавання і развіцця роднай мовы, прымнажэння каштоўнасцей сваёй культуры.

Нам надзвычай важна выпрацаваць дакладную пазіцыю па гэтай жыццёва важнай праблеме, якая набыла палітычны характар і закранае інтарэсы ўсяго насельніцтва краіны. Прычым пазіцыю, заснаваную на ўліку ўсіх справядлівых спадзяванняў, на ўсеагульнай згодзе.

Такія асноўныя вынікі развіцця нашай многанацыянальнай краіны, такія — зразумела, у самых агульных рысах — рэальнасці савецкага грамадства, з якіх нам і трэба зыходзіць, выпрацоўваючы нацыянальную палітыку ў сучасных умовах.

# II.

Таварышы! У праекце платформы КПСС, прадстаўленай на абмеркаванне Пленума, размова, натуральна, ідзе аб агульным падыходзе да наспеўшых праблем, паколькі прыняцце канкрэтных рашэнняў — гэта прэрагатыва вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Саюза ССР, саюзных рэспублік.

Платформа выклікала жывую цікавасць у партыі, ва ўсіх слаях грамадства, у прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей, якія насяляюць нашу краіну. Яе прынцыповыя палажэнні сустрэлі шырокую падтрымку. Выказана многа меркаванняў і цікавых прапаноў. Некаторыя тэзісы падвергліся крытыцы — гэта таксама мае месца.

Платформа КПСС прыцягнула вялікую ўвагу і за рубяжом. Гэта звязана як з жывой цікавасцю да перабудовачных працэсаў, што адбываюцца ў нашай краіне, так і з тым, што нацыянальныя праблемы актуальныя сёння ў многіх краінах, я сказаў бы, маюць глабальны характар.

Ацэньваючы і ўзважваючы праект платформы, вы, вядома, звярнулі ўвагу, што ўвесь яго змест самым непасрэдным чынам звязаны з комплексам задач, якія мы вырашаем у рамках перабудовы, палітычнай і эканамічнай рэформы. Гэта натуральна. Тут, як кажуць, самая жывая дыялектычная сувязь, якая павінна намі ўлічвацца і ў палітыцы, і ў практычнай дзейнасці. Сапраўды, мы паставілі задачай рэканструкцыю, абнаўленне грамадства на аснове ленінскіх ідэй і прынцыпаў. Але ўвесь наш вопыт, і мінулы, і цяперашні, сведчыць, што нельга разлічваць на поспех перабудовы без вырашэння праблем міжнацыянальных адносін. І таксама немагчыма вырашыць гэтыя праблемы, даць новы імпульс развіццю савецкай федэрацыі без разгортвання перабудовачных працэсаў, без дэмакратызацыі і гуманізацыі сацыялістычнага грамадства.

Хацеў бы яшчэ прыцягнуць вашу ўвагу да таго, што мы не выпадкова падкрэсліваем неабходнасць абнаўлення нацыянальнай палітыкі. Размова не ідзе аб тым, каб адкінуць зробленае да гэтага часу. Але на цяперашнім этапе, калі наша грамадства карэнным чынам змянілася, узнікла надзённая патрэбнасць выпрацаваць такую нацыянальную палітыку, якая забяспечыла б вырашэнне наспеўшых праблем развіцця краіны, адпавядала рэаліям сучаснасці. На такіх падыходах і пабудавана платформа. Яе, калі хочаце, глыбінны філасофскі сэнс заключаецца ў тым, каб вызначыць аптымальныя формы суадносін інтэрнацыянальнага і нацыянальнага, прымянення гэтай марксісцка-ленінскай ідэі ў цяперашняй абстаноўцы. А ў практычным і палітычным плане — забяспечыць умовы для свабоднага і ўсебаковага развіцця кожнай нацыі і ўмацавання Саюза, які з'яўляецца крыніцай дабрабыту ўсіх нашых народаў.

Ключавое пытанне тут, на якім трэба спыніцца асабліва, — гэта шлях рэалізацыі ў сучасных умовах ленінскага прынцыпу самавызначэння нацый. У мінулыя дзесяцігоддзі тут было дапушчана нямала скажэнняў. На жаль, яны замацаваліся ў пэўнай меры і ў грамадскай свядомасці. Неабходна таму дакладна вызначыць сваю пазіцыю ў гэтым карэнным для нашай тэорыі і палітыкі пытанні.

Перш за ўсё неабходна падкрэсліць, што партыя будзе паслядоўна праводзіць у жыццё ленінскую нацыянальную палітыку, уключаючы такі яе асноватворны прынцып, як права нацый на самавызначэнне. Бясплённыя і заслугоўваюць асуджэння спробы сцвярджаць, нібыта самавызначэнне народаў СССР не адбылося, зводзіць яго толькі да аддзялення, тым самым збядняючы гэты універсальны прынцып вырашэння нацыянальнага пытання. Увесь наш, і не толькі наш вопыт гаворыць аб неабходнасці разглядаць самавызначэнне не толькі як аднаразовы акт, звязаны з ажыццяўленнем права на аддзяленне. Гэта — складаны, мнагапланавы працэс зацвярджэння нацыянальнай годнасці, развіцця мовы і культуры, умацавання палітычнай самастойнасці, эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу.

З гэтага пункту погляду комплекс мер, якія ажыццяўляюцца ў рамках перабудовы, азначае новы буйны этап у рэалізацыі права нацый на самавызначэнне. У сучасных умовах гэты прынцып знаходзіць сваё аптымальнае выражэнне ў самакіраванні, якое забяспечвае захаванне нацыянальнай самабытнасці, права кожнага народа карыстацца ўсімі дабротамі суверэнітэту, самастойна вырашаць пытанні свайго развіцця — эканамічныя, палітычныя, культурныя. У той жа час самакіраванне прадугледжвае добраахвотнае аб'яднанне рэспублік і нацыянальных утварэнняў у імя вырашэння агульных для ўсіх задач, арганічнае іх уключэнне ў развіццё ўсёй краіны.

Цяперашні этап самавызначэння нацый ставіць на парадак дня значнае расшырэнне правоў рэспублік, рашучую ліквідацыю скажэнняў і дэфармацый, якія мелі месца ў мінулым і згубныя вынікі якіх да гэтага часу даюць аб сабе знаць у розных сферах жыцця нашага грамадства. Прапануецца перш за ўсё комплекс мер, накіраваных на ўмацаванне палітычнай самастойнасці саюзных рэспублік, напаўненне рэальным зместам іх суверэнітэту.

Дакладнае размежаванне паўнамоцтваў саюзных і рэспубліканскіх органаў улады дазволіць апошнім вырашаць па свайму меркаванню ўсе пытанні свайго жыцця, за выключэннем тых, якія добраахвотна перадаюцца імі Саюзу, і, дарэчы, у вырашэнні якіх яны таксама будуць удзельнічаць праз адпаведныя палітычныя механізмы.

Пры захаванні за Саюзам паўнамоцтваў, неабходных для ажыццяўлення агульных задач федэрацыі, прапануецца ўнесці прынцыповае змяненне ў існаваўшы раней парадак, пры якім Саюз меў права прыняць да свайго разгляду і вырашаць практычна любое пытанне, што рабіла ў многім фармальнымі рэальную кампетэнцыю і суверэнітэт рэспубліканскіх улад. Такім чынам, вырашаецца праблема прыярытэтнасці саюзнага або рэспубліканскага закона.

Новы характар адносін у федэрацыі павінен знайсці свае прававыя гарантыі ў Канстытуцыі СССР. Далей. Я ўжо ўпамянуў і хачу развіць думку аб тым, што расшырэнне правоў рэспублік і ўмацаванне іх суверэнітэту павінна выражацца ў значным расшырэнні іх уплыву на агульнасаюзныя справы. У новых структурах дзяржаўнай улады, ствараемых у ходзе палітычнай рэформы, ужо многае зроблена ў гэтым напрамку. Гэта і састаў Вярхоўнага Савета СССР, яго Прэзідыума, і намячаемы парадак работы Камітэта канстытуцыйнага нагляду. Цяпер прапануецца пайсці далей, ствараючы не толькі юрыдычныя, але і палітычныя ўмовы для больш шырокага і актыўнага ўдзелу рэспублік у вырашэнні агульнасаюзных праблем. Такі падыход павінен знайсці сваё выражэнне і ў кадравай палітыцы. Трэба забяспе-

(Працяг на 4-й стар.).

# АБ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ ПАРТЫІ Ў СУЧАСНЫХ УМОВАХ

(Працяг. Пачатак на 2-й стар.).

чыць шырокі ўдзел прадстаўнікоў усіх нашых народаў у агульнасаюзных дзяржаўных і грамадскіх органах, у апараце кіравання. Зразумела, з улікам прафесіянальных якасцей людзей.

У комплексе праблем, звязаных з пераўтварэннем нашай федэрацыі, далейшым расшырэннем правоў і ўмацаваннем суверэнітэту саюзных рэспублік, неабходна разгледзець наспеўшыя пытанні развіцця РСФСР. У апошні час яны аказаліся ў цэнтры дыскусій не толькі ў самой Расійскай Федэрацыі, але і ў цэлым у краіне.

І па свайму становішчу ў Саюзе, і па ўнутранай сваёй структуры РСФСР — складанейшая нацыянальна-палітычная і культурна-этнічная сістэма. Магутныя рэвалюцыйныя зрухі, пачатак якім паклаў Кастрычнік 1917 года, карэнным чынам змянілі аблічча Расіі. Вядома, якую ролю адыгралі Расія, рускі народ ва ўступленні ўсёй краіны на шлях рэвалюцыйных пераўтварэнняў, пераадоленні эканамічнай і культурнай адсталасці многіх народаў, у абароне заваёў Кастрычніка.

Аднак дапушчаныя дэфармацыі негатыўна адбіліся на самой Расіі, як і на ўсіх іншых саюзных рэспубліках. Аб гэтым гавораць неспрыяльныя дэмаграфічныя тэндэнцыі, шматлікія факты нерацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў і іх разбазарвання, відавочнае *запусценне такіх* спрадвечна рускіх абласцей, як Нечарназем'е, рада іншых рэгіёнаў. У Кузбасе, на Урале, на Волзе, Байкале, у паўночных рэгіёнах у выніку сур'ёзных пралікаў у размяшчэнні і развіцці прадукцыйных сіл стварылася вострая экалагічная абстаноўка. У наяўнасці адставанне многіх краёў, абласцей, аўтаномных утварэнняў у сацыяльным развіцці. Законная трывога праяўляецца аб захаванні і аднаўленні бясцэнных помнікаў старадаўнасці, з якімі непарыўна звязаны гісторыя і культура рускага і іншых народаў рэспублікі. Сур'ёзна непакоіць грамадскасць Расіі і ўсёй краіны становішча малалікіх народаў Поўначы, Сібіры і Далёкага Усходу.

Вырашэнне ўсіх гэтых праблем патрабуе ажыццяўлення глыбокіх і далёка ідучых мер, у тым ліку арганізацыйнага і палітычнага характару. З улікам шматлікіх прапаноў у платформе намячаюцца шляхі ўдасканалення дзяржаўнай структуры Расійскай Федэрацыі, яе становішча ў Саюзе. Яны шырока абмяркоўваліся і атрымалі адабрэнне як у самой РСФСР, так і ў Саюзе ў цэлым. Гэта мы канстатуем з задавальненнем. Думаю, Пленум Цэнтральнага Камітэта выкажацца ў падтрымку гэтых прапаноў. Што датычыць фарміравання рэспубліканскіх партыйных структур, то мы маглі б ужо цяпер пачаць прапрацоўку гэтых пытанняў.

У водгуках на платформу, тую яе частку, дзе размова ідзе аб пераходзе ў перспектыве да кіравання па рэгіёнах, выказваецца неспакой, што гэта можа прывесці да аслаблення сувязей паміж імі. Павінен сказаць, што такі неспакой пазбаўлены падстаў. Наадварот, удасканаленне кіравання эканомікай у тэрытарыяльным разрэзе дазволіць не толькі лепш вырашаць на месцах сацыяльныя, экалагічныя і іншыя задачы, але будзе садзейнічаць развіццю кааперацыі працы паміж усімі часткамі Расіі, дынамічнаму развіццю РСФСР як цэласнага эканамічнага і палітычнага арганізма ў інтарэсах усіх насяляючых яе народаў.

У рамках пераўтварэння савецкай федэрацыі вялікае значэнне мае наданне новага статуса савецкай аўтаноміі. Такі сэнс прапаноў платформы, якія датычаць расшырэння правоў аўтаномных рэспублік ва ўсіх галінах дзяржаўнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, умацавання іх эканамічнай самастойнасці. Тую ж мэту ставіць расшырэнне правоў аўтаномных абласцей і акруг, магчымасць стварэння нацыянальных раёнаў у месцах кампактнага пражывання нацыянальнасцей, а таксама агульнасаюзных саветаў грамадзян буйных па колькасці нацый, у якіх няма ўласнай тэрытарыяльнай аўтаноміі.

Відавочна, вы звярнулі ўвагу на тое, што ўносіліся прапановы аб трансфармацыі аднаго віду аўтаноміі ў іншы, выказваліся пажаданні пераўтварыць некаторыя аўтаномныя рэспублікі ў саюзныя. Трэба, таварышы, з усёй пэўнасцю сказаць: калі быць рэалістамі і ўлічваць сітуацыю, у якой мы знаходзімся, самае галоўнае — правы народаў, якія самавызначыліся ў такой форме, павінны быць значна расшыраны і надзейна забяспечаны на справе.

Закрану яшчэ адно прынцыповае пытанне. У водгуках на платформу змяшчаюцца прапановы аб тэрытарыяльных змяненнях, перакройцы гра[illegible]цыянальна-дзяржаўных [illegible]міністрацыйных утварэнняў. На карысць гэтага прыводзяцца розныя довады. На Пленуме трэба сфармуляваць цвёрдую і ясную пазіцыю наконт гэтага. Мы зыходзім з таго, шт[illegible] перашні нацыянальна-тэр[illegible]ыяльны падзел не з'яўляецца перашкодай для таго, каб людзі ўсіх нацыянальнасцей маглі нармальна жыць у любым кутку краіны. На стварэнне адпаведных умоў і трэба ў першую чаргу накіроўваць намаганні. Стаць жа цяпер на шлях перакройкі адміністрацыйна-тэрытарыяльнай карты краіны азначала б толькі ўскладніць і без таго няпростую сітуацыю, фактычна адсунуць на няпэўны час дасягненне рэальных мэт перабудовы, накіраваных на паляпшэнне жыцця ўсіх савецкіх людзей, усіх народаў.

Наша новая нацыянальная палітыка заклікана забяспечыць шырокія магчымасці для задавальнення спецыфічных інтарэсаў кожнага народа і разам з тым умацавання гарантый правоў грамадзян незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці. У платформе называецца рад мер, накіраваных на дасягненне гэтай мэты. Дадам, што яны цалкам адпавядаюць абавязацельствам, узятым намі на міжнароднай арэне. Рэалізуючы іх, мы адначасова вырашаем важныя задачы фарміравання ў СССР прававой сацыялістычнай дзяржавы.

Трэба мець на ўвазе, што ў выніку эканамічных, сацыяльных, дэмаграфічных працэсаў, міжнацыянальнай міграцыі ў нас больш як 60 мільёнаў людзей пражываюць па-за межамі сваіх нацыянальных рэспублік. І, вядома, немагчыма вырашаць якія б там ні было праблемы без уліку законных інтарэсаў і правоў гэтых нашых суграмадзян. Любая дыскрымінацыя тут недапушчальная.

Абарона правоў і свабод чалавека, грамадзяніна, асобы — адна з важнейшых умоў развіцця сучаснай цывілізацыі. Нядаўна на сустрэчы прадстаўнікоў дзяржаў — удзельніц Хельсінкскага пагаднення ў Вене СССР паставіў свой подпіс пад яе падагульняючым дакументам. Я ўспомніў аб ім, у прыватнасці, таму, што ва ўмовах рэальна функцыяніруючай федэратыўнай дзяржавы задача абнаўлення заканадаўства аб правах грамадзян становіцца шматпланавай. Размова ідзе не толькі аб саюзных законах. Рэспублікі таксама абавязаны захоўваць усе міжнародна-прававыя пакты, падпісаныя ад імя Савецкага Саюза, і значыць—ад імя ўсіх рэспублік, што ўваходзяць у яго.

Неабходна паўсюдна ўзмацніць абарону правоў грамадзян СССР. Аб гэтым тым больш важна сказаць, што прымнажаюцца выпадкі дыскрымінацыі людзей па нацыянальнай прымеце. Усё часцей мы сутыкаемся са спробамі праціўнікаў перабудовы, антыграмадскіх элементаў і груп разыграць «нацыяналістычную карту», перакінуць незадаволенасць людзей, якая капілася дзесяцігоддзямі, у сферу міжнацыянальных адносін. Для нас непрымальныя любыя праяўленні нацыяналізму і шавінізму, распальванне варожасці да любога народа.

Мы ўзялі і цвёрда будзем трымаць курс на дэмакратычнае развіццё грамадства. Але нельга не адрозніваць мірныя дэманстрацыі і мітынгі, што праходзяць у рамках Канстытуцыі, ад экстрэмісцкіх зборышчаў, якія правакуюць міжнацыянальныя сутыкненні, тэрарызуюць і запалохваюць людзей іншых нацыянальнасцей. У адносінах да такога роду асоб і груп мяккацеласць, усёдараванне проста згубныя, а часам і злачынныя. Падзеі ў Закаўказзі, Ферганскай вобласці, у Новым Узені, здаецца, мала ў каго пакідаюць сумненні наконт гэтага.

Савецкія законы прадугледжваюць пакаранне за распальванне нацыянальнай варожасці, і праваахоўныя органы павінны забяспечваць безумоўнае іх выкананне. Нельга далей мірыцца з тым, што многія злачынствы на нацыянальнай глебе застаюцца фактычна не пакаранымі з-за пралікаў у механізме правасуддзя. Настаў таксама час ясна, важкай мовай закона сказаць аб умовах, пры якіх могуць і павінны ў судовым парадку ставіцца пад забарону і распускацца нацыяналістычныя, шавіністычныя, іншыя экстрэмісцкія арганізацыі. Скажу пэўна: мы не сыдзем са шляху вырашэння ўсіх праблем палітычнымі метадамі, але там, дзе гэта дыктуецца вастрынёй сітуацыі, дзе ўзнікла пагроза для бяспекі і жыцця людзей, будзем дзейнічаць рашуча, выкарыстоўваючы ўсю сілу савецкіх законаў.

Таварышы! Забеспячэнне радыкальных пераўтварэнняў федэрацыі непарыўна звязана з удасканаленнем эканамічных адносін і кіравання народнай гаспадаркай. Гэта праблематыка знайшла дастаткова поўнае асвятленне ў платформе. Не прадрашаючы вынікаў яе абмеркавання, хацеў бы выказаць некалькі думак наконт гэтага.

Перш за ўсё нам ні ў якім выпадку нельга пад націскам бягучых цяжкасцей заблудзіць у выпрацоўцы прынцыповых эканамічных рашэнняў на будучыню. Гэтыя рашэнні павінны ўлічваць як аб'ектыўную патрэбнасць у развіцці інтэграцыі на аснове падзелу працы, так і неабходнасць эканамічнай самастойнасці.

У сучасных умовах былі б надзвычай небяспечнымі тэндэнцыі да аўтаркіі, спробы адносна моцных рэспублік і абласцей ізалявацца, адгарадзіцца ад іншых. Гэта можа прывесці да вельмі негатыўных вынікаў для тых, хто стаў бы на такі шлях.

Нам трэба на Пленуме Цэнтральнага Камітэта перад усімі народамі Савецкага Саюза яшчэ раз аб гэтым сказаць, каб яны не паддаваліся дэмагогам, якія скрываюць, да чаго можа прывесці рэалізацыя іх лозунгаў, што падаюцца пад «прыемным соусам» незалежнасці, аддзялення і г.д. Гэта безадказная гульня лёсам народа. Хто наогул возьмецца раздзяліць, раскроіць цяперашняе наша пераплеценае, звязанае ўсімі эканамічнымі, палітычнымі, сацыяльнымі, духоўнымі, чалавечымі, сямейнымі вузамі грамадства! Толькі авантурысты могуць да гэтага заклікаць.

Сёння аснову навукова-тэхнічнага, эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу складаюць рацыянальны падзел працы, інтэграцыя, выкарыстанне патэнцыялу, набытага ўсім грамадствам. І аб гэтым гаворыць не толькі наш вопыт, але і ўся сусветная практыка.

У нашых умовах прынцыповае значэнне для эфектыўнага развіцця ўсіх рэспублік і рэгіёнаў набывае больш арганічнае іх уключэнне ў агульнасаюзны падзел працы. Некаторыя таварышы, праўда, скардзяцца, што ў нас дрэнна ідуць справы з самім падз[illegible]м працы, з цэнаўтварэннем[illegible]кая дысцыпліна выканання дагаворных абавязацельстваў. Усё гэта так. Але ці можна сёння, калі мы выбудоўваем развіццё эканомікі на перспектыву, базіравацца ў сваіх прагнозах толькі на канстатацыі недах[illegible] сістэмы, якая дасталася у спадчыну ад мінулага. Яны могуць і будуць ліквідоўвацца ў выніку разгортвання эканамічнай рэформы, чым мы цяпер і заняты. Аб гэтым, у першую чаргу, і павінна ісці размова — як ажыццявіць гэту рэформу, каб зняць усё, што выклікае занепакоенасць, што нанесла шкоду развіццю эканомікі ўсёй краіны і асобных рэгіёнаў.

Мы добра ведаем, што ў рамках да канца цэнтралізаванай адміністрацыйна-каманднай сістэмы практыкавалася не толькі неабгрунтаванае перацягванне сродкаў ад перадавых прадпрыемстваў адстаючым. Тое ж самае адбывалася і паміж эканамічнымі рэгіёнамі краіны. Калі гаварыць адкрыта, то за кошт забрання ў адных пакрываліся безгаспадарчасць і бяздзейнасць іншых. Гэта яўна супярэчыла асноўнаму прынцыпу сацыялізму, параджала ўтрыманскія настроі.

Рэалізацыя мер, намячаемых у платформе, дазволіць ліквідаваць падобныя ненармальныя з'явы, якія падрываюць зацікаўленасць у выніках гаспадарчай дзейнасці. Мы ўжо ўступілі на гэты шлях, падтрымаўшы адпаведныя ініцыятывы Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. Аналагічныя прапановы рыхтуюцца па іншых рэспубліках і рэгіёнах. Такі падыход дасць усім магчымасць праявіць прадпрымальнасць, будзе стымуляваць рост эканамічнай эфектыўнасці. Павялічацца сродкі, якія паступяць у распараджэнне рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады і могуць быць выкарыстаны для вырашэння сацыяльных праблем. Эканамічны стан рэспублікі, рэгіёна будзе пастаўлены ў залежнасць ад вынікаў гаспадарчай дзейнасці.

Падкрэсліваючы вялікае значэнне прынцыпу эканамічнай самастойнасці, трэба разглядаць яго ў арганічнай сувязі з пераходам прадпрыемстваў на поўны гасразлік. Гэта асабліва важна зразумець усім нам, таварышы, таму што тут яшчэ многа блытаніны. Трэба прама сказаць, сапраўдную самастойнасць нельга забяспечыць без вырашэння гэтай кардынальнай задачы. Тым больш нельга дапусціць, каб цэнтралісцкі дыктат проста перамясціўся з аднаго ўзроўню на іншы. У гэтым выпадку агульнасаюзны рынак, які мы хочам удасканальваць і дзе галоўнымі дзеючымі асобамі павінны выступаць гаспадарча-разліковыя прадпрыемствы, быў бы падзелены рэгіянальнымі агароджамі.

Хіба гэта тое, да чаго мы імкнёмся? Бо тады ўзнікаючыя пытанні прыйдзецца вырашаць ужо не ў адным цэнтры, а ў 15 або ў сотнях цэнтраў.

Нядаўна мы сустракаліся з таварышамі з Прыбалтыкі і гаварылі, што такое РАФ. Гэта добрае прадпрыемства, вырабляе патрэбную машыну, якая і за рубеж ідзе, а сюды паступаюць дэталі з некалькіх соцень заводаў краіны. Калі штосьці задумалі на РАФе ўдасканаліць, каб узняць тэхнічны ўзровень, значыць трэба ўсіх уключаць.

Таму гаспадарчы разлік прадпрыемстваў — гэта цэнтральнае пытанне эканамічнай самастойнасці, ад яго выйграюць і рэспубліка, і мясцовыя Саветы, якія будуць па нарматывах атрымліваць ад прадпрыемстваў адлічэнні. Інакш кажучы, нам жыццёва неабходна далёка ідучая дэцэнтралізацыя ў эканоміцы. І такой жа пільнай патрэбнасцю з'яўляецца рэалізацыя агульнадзяржаўных праграм, звязаных з развіццём базавых галін, вытворчай інфраструктуры, арганізацыяй фундаментальных навуковых даследаванняў, падтрыманнем надзейнай абараназдольнасці краіны, вырашэннем буйных экалагічных праблем, пераадоленнем вынікаў стыхійных бедстваў, з удзелам краіны ў міжнароднай эканоміцы і палітыцы.

Нягледзячы на буйныя вынікі палітыкі «выраўноўвання», у гэтай справе яшчэ застаюцца сур'ёзныя праблемы. Хацеў бы паставіць пытанне: ці не трэба нам пры пераходзе на рэгіянальны гаспадарчы разлік выпрацаваць такую сістэму эканамічных рычагоў і стымулаў, якая дазваляла б, эфектыўна выкарыстоўваючы сродкі дзяржаўнага бюджэту, мэтанакіравана праводзіць лінію на вырашэнне надзённых праблем адстаючых раёнаў? Думаецца, такое даручэнне ўраду трэба даць ужо цяпер, бо ажыццяўленне гэтай работы цесна звязана з прадастаўленнем рэспублікам эканамічнай самастойнасці.

У ходзе дыскусій па эканамічных аспектах міжнацыянальных адносін у цэнтры ўвагі амаль заўсёды аказваюцца пытанні ўласнасці.

Удасканаленне сацыялістычнай уласнасці — гэта ключавое пытанне перабудовы. Прама скажам, не зрабіўшы наспеўшых у гэтай галіне змяненняў, мы не зможам пераадолець узнікшае адчужэнне працоўных ад сродкаў вытворчасці, адрадзіць у поўнай меры зацікаўленасць у добрасумленнай і паўнацэннай працы, стымуляваць гаспадарчую ініцыятыву і прадпрымальнасць. Яго нявырашанасць дае аб сабе знаць цяпер на практычных справах, уключаючы задачы аптымальнага размежавання функцый саюзных, рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады.

Нас яшчэ чакае шырокае абмеркаванне гэтай праблемы.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

